

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года | № 50 (487) | 20 СНЕЖНЯ 2000 г.

# 2000 ГОД АД НАРАДЖЭННЯ ІСУСА ХРЫСТА
# 2000 ГОД АД ПАЧАТКУ ХРЫСЦІЯНСКАЙ ЭРЫ

## МАЛІТВА

На гары сіянскай
На зямлі хрысьціянскай
Легла Божая Маці спачываці.
Прыйшоў Ісус Хрыстос пабуджаці.
Устань, Божая Маці, прабудзіся!
Свайму сыночку явіся!
Відзела сыночка бранага, рубанага,
На крыж крыжаванага.
Шыпшынай падперазаны,
Пярцом галоўка зьвязана,
Кап'ём рабро прабівана.
За ногці скабкі заганяны.
З-за ногцеў кроў капала
Друзою цела падала.
А ў нядзельку рана па нябесу
Божая Маці ходзіць,
Свайго Сыночка за ручку водзіць.
Паяла сыночка на Ютрань
З Ютраньня на прыказаньня,
З прыказаньня на мора.
На моры камень,
На тым камені цэркаўка стаяла
А ў той цэркаўцы прыстолы стаяць,
Сьвечкі гараць,
сталы засьцілены,
кубкі наліваны.
За тым прыстолам Ісус Хрыстос
Сядзіць, рукі зложыўшы,
Галовачку схіліўшы,
Гарачую кроў праліўшы!
Госпадзі, госпадзі!
За каго я труждаўся, на муку падаўся?
За вас, грэшных!
За кроў хрысьціянску!
Не радуйцеся Пятро і Павел маёй мукі!
Вазьміце мой крыж у рукі!
Пахадзіце па ўсяму сьвету!
Закажыце старому і малому.
Беднаму і багатаму,
Сонейку праведнаму.
Хто маю малітву будзе,
рана, вечар маліць
Ад Бога ласку будзе мець!
У агні не пагарыць, у моры не патанець!
Ад зьвера бягучага!
Ад гада паўзучага!
Ад чалавека злога!
Аллілуе, Аллілуе! Слава табе, Госпадзі!



*Гэтую малітву-замову запісала Мая Антонаўна Белая у жыхаркі вёскі Стракавічы Светлагорскага раёну Марыі Барсук. У тэксце захавана арфаграфія арыгіналу.*

## Адбылася абласная канферэнцыя ТБМ

9 снежня адбылася справаздачна-выбарчая Магілёўская абласная канферэнцыя.

На сённяшні дзень суполкі ТБМ дзейнічаюць у 12 раёнах Магілёўшчыны. Таму на канферэнцыі былі дэлегаты ад Магілёўскай, Асіповіцкай, Шклоўскай, Бялыніцкай і іншых гарадскіх і раённых структур.

Зараз прайшлі перарэгістрацыю і стаяць на ўліку у мясцовых органах улады Магілёўская абласная арганізацыя, Магілёўская гарадская, Асіповіцкая раённая, Бабруйская гарадская суполка, Горацкая раённая, Хоцімская і Шклоўская суполкі ТБМ. У бліжэйшы час плануецца рэгістрацыя Бялыніцкай раённай структуры ТБМ. Структуры і асобныя сябры ТБМ існуюць у Касцюковічах, Чэрыкаве, Слаўгарадзе, Мсціславе і Крычаве. Найбольш актыўна працуюць зараз сябры ТБМ у Магілёве, Бабруйску, Горках, Асіповічах і Шклове. Яны змагаюцца за беларускамоўную адукацыю, ладзяць вечарыны і сустрэчы з пісьменнікамі, збіраюць подпісы за адкрыццё БНУ, выпускаюць дзіцячыя і дарослыя газеты і бюлетэні, супрацоўнічаюць з афіцыйнымі беларускамоўнымі раённымі выданнямі.

На канферэнцыі прысутнічалі і мелі слова старшыня ТБМ Алег Трусаў і намеснік старшыні ТБМ Людміла Дзіцэвіч. У іх выступах ішла гаворка аб стварэнні рабочай групы па распрацоўцы Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі, аб удзеле структур ТБМ Магілёўшчыны ў Асамблеі неўрадавых арганізацый, аб актывізацыі збору подпісаў за адкрыццё БНУ і падпісцы на газету ТБМ "Наша слова", выдачы сябрам ТБМ новых прыгожых пасведчанняў с сімволікай ТБМ, аб правядзенні на Магілёўшчыне семінара "Я магу жыць лепей".

Удзельнікі канферэнцыі прынялі зварот да мясцовых уладаў г. Касцюковічы з патрабаваннем працаўладкаваць актывістку ТБМ, настаўніцу беларускай мовы і літаратуры Людмілу Леўчанку, якая была пазбаўлена працы за свае патрыятычныя патрабаванні.

На канферэнцыі быў заслуханы справаздачны даклад старшыні Магілёўскай абласной структуры ТБМ Міхася Булавіцкага і абрана новая рада ў складзе пяці чалавек. У яе ўвайшлі прадстаўнікі Магілёва, Асіповіч і Шклова. Старшынём арганізацыі прысутныя зноў абралі Міхася Булавіцкага.

*Старшыня ТБМ Алег Трусаў.*

## Сямён Домаш – лідар беларускіх дэмакратычных сілаў

15 снежня Каардынацыйная рада Кангрэсу дэмакратычных сілаў разглядала пытанне вызначэння адзінага кандыдата на прэзідэнцкіх выбарах 2001 года.

Як вядома зацвярджаць прозвішча адзінага кандыдата будзе Кангрэс. Задача Каардынацыйнай рады выпрацаваць рэкамендацыі для Кангрэсу і мінімальна звузіць кола кандыдатур. Аптымальны варыянт, калі КРДС згодзіцца з адной кандыдатурай. Тады ёсць верагоднасць, што Кангрэс даволі лёгка вырашыць сваю задачу.

Пасля паседжання 15 снежня кола прэтэндэнтаў, якіх могуць падтрымаць дэмакратычныя сілы звузілася да трох чалавек: сп. Домаш, былы старшыня Гарадзенскага аблвыканкаму і аблсавету, член Прэзідыюму Вярхоўнага Савету 13-га склікання, сп. Ганчарык – старшыня Федэрацыі прафсаюзаў беларускай (афіцыйныя прафсаюзы) і сп. Чыгір – былы прэм'ер-міністр. Разгляд кандыдатур паказаў, што рэйтынг Сямёна Домаша ў тры разы вышэйшы чым у Ганчарыка і яшчэ ў большай ступені перавышае рэйтынг М. Чыгіра.

Трэба адзначыць вырашальную ролю абласцей. Усе пяць абласцей (без Менскай, якая не аформлена арганізацыйна) выказаліся за Домаша.

Сямёна Домаша падтрымала і Асамблея няўрадавых арганізацый. Сваё рашэнне Рабочая група Асамблеі няўрадавых арганізацый прымала таксама 15 снежня. І тут вызначальная роля аказалася ў рэгіёнаў. Прадстаўнікі ўсіх шасці абласцей падтрымалі С. Домаша. Менск у значнай ступені таксама падтрымаў вобласці. Сямён Домаш атрымаў 25 галасоў з 31-го ні Чыгір ні Ганчарык не атрымалі на Рабочай групе Асамблеі ні аднаго голасу.

Такім чынам дэмакратычныя арганізацыі Беларусі (усяго іх больш 400) вызначыліся. Справа за дэмакратычнымі партыямі, якім знайсці паразуменне цяжэй, але таксама, магчыма.

Для сяброў ТБМ нагадваем, што ў 1997 - 1999 гадах Сямён Домаш быў сябрам Рэспубліканскай Рады ТБМ.

## Стан беларускай мовы становіцца еўрапейскай праблемай

16 снежня падчас Круглага стала праваабарончых арганізацый, які праходзіў у місіі АБСЕ з удзелам сп. Віка, Старшыня ТБМ Алег Трусаў звярнуў увагу на грубае парушэнне правоў беларускамоўных грамадзян у адукацыі і асабліва ў вышэйшай. Ён перадаў сп. Віку на нямецкай мове (роднай мове пасла) інфармацыю аб ініцыятыве ТБМ па стварэнні Беларускага Нацыянальнага Універсітэта і паведаміў, што за гэтую ініцыятыву паставілі свае подпісы больш 35000 грамадзян Беларусі. Сп Вік адзначыў актуальнасць гэтага пытання і абяцаў звярнуць увагу міжнароднай супольнасці на гэтую праблему.

***Слонімская суполка Таварыства беларускай мовы аб'яўляе конкурс сярод настаўнікаў і выхавацеляў па напісанні ўласнай праграмы выхавання нацыянальна свядомай асобы.***

***Будуць улічвацца кірункі дзейнасці, цікавыя формы працы, прапановы, знаходкі. Памер праграмы не больш за 2 друкаваныя аркушы.***

***Праграмы дасылайце па адрасе: Слонім, вул. Брэсцкая, 103/1, кв.61. Пераможцаў чакаюць узнагароды!***

Беларуская мова – ТБМ – наша будучыня

### Ахвяраванні на ТБМ

| | |
|---|---|
| 1. Ліцьвінава Людміла (Менск) | 1.000 |
| 2. Зімніцкая Валянціна (Менск) | 1.000 |
| 3. Міхась Жарнасек (Менск) | 200 |
| 4. Макарэвіч Надзея (Менск) | 500 |
| 5. Бародзіч Ганна (Менск) | 500 |
| 6. Чарнаморцава Валерыя (Менск) | 200 |
| 7. Кажамякіна Людміла (Менск) | 1.000 |
| 8. Казлоўская Іна (Менск) | 500 |
| 9. Петрушковіч Васіль (Менск) | 2.100 |
| 10. Рудзеня Л.У. (Менск) | 1.000 |
| 11. Ганчарова В.А. (Менск) | 500 |
| 12. Іпатава Вольга (Менск) | 5.000 |
| 13. Міцкевіч У.В. (Менск) | 4.000 |
| 14. Суполка "Сотвар" (Менск) | 7.500 |
| 15. Алесь Марачкін (Менск) | 20 $ |
| 16. Анд. Валчук-Волчак (Польшча) | 10 DM |
| 17. Петруковіч Васіль (Менск) | 2.100 |
| 18. Кафедра сучаснай беларускай мовы БДУ (Менск) | 8.000 |
| 19. Мішук Георгі (Менск) | 5.000 |
| 20. Брылеўская (Віцебская вобласць) | 10$ |
| 21. Грынько Лілея (Менск) | 1000 |
| 22. Ляцяга Ігар (Менск) | 1000 |
| 23. Чэрапко Зоя (Менск) | 1000 |
| 24. Глушакоў Кастусь (Менск) | 1000 |
| 25. Малочка Ларыса (Менск) | 1000 |
| 26. Коцік Аляксандр (Менск) | 2000 |
| 27. Смялянская Ганна (Менск) | 2000 |
| 28. Бахвалаў Дзмітры (Менск) | 500 |
| 29. Старасценка Ал. (Менск) | 2000 |

# З Калядамі вас, дарагія беларусы!





# Свята Слуцкіх герояў у Адэлаідзе



Наша парафія Беларускай Аўтакефальнай праваслаўнай царквы 26. 11. 2000 г. ушаноўвала Слуцкіх герояў. Была адпраўлена паніхіда па Слуцкіх героях. У царкве адспявалі царкоўны гімн Магутны Божа.

Наш настаяцель айцец пратаіярэй Пятро Касацкі, сказаў вельмі чулую пропаведзь. Пасля панахіды ўсе прысутныя пайшлі ў прыцаркоўную залу на абед, які быў прыгатаваны сястрыцтвам. Святар дабраславіў ежу на агульным стале. Царкоўны хор адспяваў нацыянальны гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі", жалобны марш "Спі пад курганам герояў" і "У гушчарах". Спадар Уладзімір Акавіты пад шчодрыя воплескі прачытаў верш "Пад гоман вясёлы". Пачаўся абед, які працягваўся да 5 гадзін. Усе разышліся да дому ў добрым настрoі.

**С пашанаю да Вас У. Акавіты.**
**Адэлаіда, Аўстралія.**

Віншую Вас са Святамі калядными і зычу шчасліва Новага году 2001.

**На здымку:** Паніхіда па Слуцкіх героях. Два жаўнеры трымаюць сцягі: беларускі і аўстралійскі.

# Дачакаліся

Выдавецтва "Наша Ніва" мае прыемнасць паведаміць пра завяршэнне працы над Слоўнікам Беларускай Мовы (класічны правапіс). Да Новага году слоўнік будзе цалкам змешчаны ў сеціве: http://slounik.hypermart.net/

Слоўнік складзены на падставе распрацовак Вінцука Вячоркі і пастановаў Пражскай правапіснай нарады. Рэдактар слоўніка -- Сяргей Шупа.

Гэтую публікацыю мы разглядаем, як пілотную і запрашаем Вас да абмеркавання. Пасля разгляду ўсіх прапановаў у 2001 годзе мы плануем выверанную версію Слоўніка выдаць у кніжным фармаце.

**З павагай, Сяргей Дубавец.**

# Сустрэча ў школе

11 лістапада ў СШ № 87 у тыдзень беларускай мовы да школьнікаў па запрашэнню настаўніцы роднай мовы Галоўкінай Вольгі Віктараўны завіталі супрацоўнікі рэдкалегіі часопіса "Бярозка" – Алесь Наварыч і Уладзімір Мароз, а таксама старшыня гарадской Рады ТБМ Алена Анісім.

Сп. Алесь Наварыч расказаў гісторыю стварэння часопіса, пазнаёміў з рубрыкамі, пачытаў некалькі твораў, напісаных вучнямі з розных куткоў Беларусі, і запрасіў прысутных таксама паспрабаваць свае творчыя сілы і напісаць у рэдакцыю пра тое, што хвалюе. Уладзімір Мароз – адказны рэдактар часопіса – пачытаў некалькі сваіх вершаў рознай тэматыкі: ад патрыятычных да глыбока лірычных.падчас нязмушанай размовы высветлілася, што вучні не абыякавыя да праблем развіцця роднай мовы. На занятках яны склададлі бізнес-план па яе развіццю. Вось некаторыя іх прапановы:

1. Рэклама тавараў павінна рабіцца на беларускай мове.

2. Усе тавары, у тым ліку і прадукты, аформленыя на дзяржаўнай беларускай мове.

3. Павінны існаваць добраўпарадкаваныя садкі з басейнам, дзе б выхаванне вялося па-беларуску зацікаўленымі ў сваёй працы выхавацелямі і нянечкамі.

4. Наладзіць на беларускім тэлебачанні шэраг цікавых беларускамоўных перадач.

Па праўдзе кажучы, вуснамі дзяцей агучаная ісціна. Такое б мысленне ды адказным асобам нашай дзяржавы. Глядзіш, і памянела б размоў наконт "недасканаласці нашай мовы і немагчымасці стварыць на ёй штосьці геніяльнае".

Старшыня гарадской арганізацыі ТБМ, якая самым непасрэдным чынам удзельнічала ў правядзенні гэтай сустрэчы, расказала школьнікам пра конкурс "Мой радавод", пазнаёміла з дзейнасцю ТБМ, з газетай "Наша слова".

Перад адыходам госці прайшлі крыху па школе, наведалі кабінет беларускай мовы. Звычайная школа, звычайныя дзеці, звычайныя настаўнікі – і ўсё ж... Не пакідае ўражанне таго, што не ведаем мы ўсіх сваіх прыхільнікаў, недастаткова працуем з імі. Толькі з'яднаўшы ўсе намаганні ў адным кірунку, можна дабіцца станоўчага выніку.

*Алена Анісім.*

# Чарговыя семінары адбыліся ў Менску і Магілёве

9 снежня аднaчасова ў Магілёве і Менску адбыліся семінары "Я магу жыць лепей". Менскі семінар праводзіла вядомая ў Беларусі фалькларыстка і журналістка Антаніна Хатэнка. На занятках прысутнічалі людзі розных узростаў і прафесій, гэта пенсіянеры і студэнты, працоўныя і службоўцы. Удзельнікі семінару маглі даведацца не толькі аб тым, як выпрацоўваць ўпэўненасць ў сваёй здольнасці жыць лепей, але і атрымалі надзвычайную асалоду ад цудоўнай і дасканалай беларускай мовы, на якой праводзіла заняткі вядучая семінару.

Заняткі ў Магілёве праводзіла выкладчыца Беларускага універсітэта культуры, намесніца старшыні ТБМ Людміла Дзіцэвіч. У семінары прынялі ўдзел студэнты і выкладчыкі Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта і актывісты ТБМ з Бялынічаў і Асіповічаў.

Наступны выязднi семінар плануецца правесці ў Асіповічах. Жадаючыя атрымаць практычныя веды, якія дапамогуць дасягнуць лепшых вынікаў у жыцці, калі ласка, звяртайцеся да старшыні Асіповіцкай раённай арганізацыі Таццяны Барэль па тэлефоне: 6-20-30.

*Сяржук Кручкоў.*

**Рада ТБМ імя Францішка Скарыны Савецкага раёна г. Менска праводзіць выбарчую канферэнцыю 23 снежня ў 11 гадзін у Менску на Варвашэні, 8.**

# Нашыя шэрагі зноў выраслі

На апошніх паседжаннях Сакратарыяту што адбыліся 23 лістапада і 7 снежня зарэгістраваны новыя суполкі ТБМ: Суполка пры Амбросевіцкай школе Мастоўскага р-на (4 асобы) кіраўнік Ларыса Курганава, гарадская арганізацыя ТБМ у Мастах (кіраўнік Лявон Карповіч), суполка пры рэдакцыі часопіса Бярозка (6 чалавек), суполка пры рэдакцыі газеты Раніца (10 чалавек), Браслаўская суполка ТБМ (13 асобаў, кіраўнік Надзея Шыдлоўская) і суполка "Волат" з Барысава (8 чалавек).

На наступным Сакратарыяце будзе разглежджана пытанне Нарачскай суполкі з Мядзельскага р-на.

*Сакратарыят.*

# Беларускія студэнты ў Чэхіі

З 4 па 9 снежня група беларускіх студэнтаў гістарычных факультэтаў з усёй Беларусі прыехалі ў Чэхію па запрашэнні Беларускага цэнтру фундацыі "Чалавек у нядолі". Паездка была не толькі азнаямляльнай, але і вельмі павучальнай: маладыя гісторыкі слухалі лекцыі па гісторыі чэшска-беларускіх адносінаў у Карлаўскім універсітэце, наведалі гістарычныя помнікі, бібліятэкі, касцёлы, музеі і ўстановы Чэшскай рэспублікі. Напрыканцы праграмы хлопцы і дзяўчаты сустрэліся з беларускімі студэнтамі, якія навучаюцца ў Чэхіі.

# КАЛЯНДАРЫКІ АД ТБМ




Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны працягвае асвойваць новыя формы работы. У той час, калі дзяржаўныя выдавецтвы не выдалі ніводнага кішанёвага беларускамоўнага каляндарыка, яно вымушана было ўзяць гэту працу на сябе. У лістападзе Таварыства выдала два новыя арыгінальныя беларускамоўныя каляндарыкі на 2001 год.

Першы прысвечаны нашаму слыннаму пісьменніку і паэту Уладзіміру Караткевічу. На першым плане партрэт Уладзіміра Караткевіча, а ў нізе змешчаны крушні Альшанскага замка. Аўтар працяты зямляк Уладзіміра Караткевіча вядомы мастак Мікола Купава.

Другі каляндарык адлюстраваў нацыянальны беларускі герб Пагоню. Аўтар Уладзімір Цярохін падкрэсліў няўміручасць нашага старадаўняга герба. Легендарная Пагоня ад сівых Мірскіх муроў сягае ў будучыню – трэцяе тысячагоддзе!

Каляндарыкі можна знайсці на кніжнай выставе ў сядзібе ТБМ па адрасе: Менск, вул. Румянцава, 13 (каля станцыі Метро "Плошча Перамогі") Час працы: 13.30 – 19.00, апроч нядзелі.

*Алесь Сабаленка.*



Выстава японскіх лялек адкрылася ў Беларускім таварыстве дружбы. Сусветная гісторыя стварэння лялек вельмі старажытнаяб упершыню людзі стварылі ляльку 24 тысячагоддзі таму. У Японіі першая лялька з'явілася, прыкладна, у трэцім тысячагоддзі да нашай эры, у эпоху Дзёман.

Японскія лялькі вырабляюцца з дрэва, паперы, тканіны ці гліны. Разнастайнасць тэхнічных прыёмаў японскіх майстроў ставарае цікую, спакоўную прыгажосць, выразнасць і багацце колеравай гамы.

**На здымку:** экспанаты выставы.
**Фота Віктара Талочкі, БелТА.**

